# Ніва

ТЫДНЁВІК ГП БГКТ

№ 52 (878) ГОД XVII БЕЛАСТОК 24 СНЕЖНЯ 1972 г. ЦАНА 60 гр.




# З песняй па Быдгашчыне

Пачалося ад сустрэчы ў ГП БГКТ. 27 верасня г.г. прыехалі сюды прадстаўнікі Куяўска-паморскага культурнага таварыства і прапанавалі ў рамках святкавання 50-годдзя СССР прыняць у сябе мастацкі калектыў БГКТ.

Гонар прадстаўляць песенную дзейнасць БГКТ на Быдгаскай зямлі выпаў бельскаму хору, і 20 лістапада г.г. выехаў ён у сваё першае шматдзённае турнэ. Ці трэба ўспамінаць аб хваляванні нашых самадзейнікаў? Першы экзамен трэба было здаваць у першы ж дзень.

Хэлм. Зала ПК ПАРП бітком набіта гледачамі. Яны з зацікаўленнем слухаюць выступленне нашага калектыву. Звіняць песні: беларускія, польскія, рускія і украінскія. Яны дасканала перакліκаюцца з урачыстасцю, якая толькі што адбылася тут: акадэміяй, прысвечанай 50-годдзю з дня ўтварэння СССР. Пасля канцэрта сустрэча з палітычна-адміністрацыйным кіраўніцтвам павету.

I так кожны дзень. Цёплым і шчырым словам, гарачымі апладысментамі, букетамі і кошыкамі кветак прымалі бельскі хор жыхары Быдгаскага ваяводства.

Наш хор даў на Быдгашчыне сем канцэртаў. Кожны ў іншым горадзе: Хэлмне, Голюбе-Добжыне, Тухолі, Сэмпульне Краенскім, Радзеёве, Бродніцы і Влацлаўку. Запіс песень хору зрабіла таксама Польскае радыё ў Быдгашчы.

Перад кожным канцэртам рабілася інфармацыя аб працы і дасягненнях хору, а пасля канцэрта суарганізатары атрымлівалі камплекты выданняў ГП БГКТ. Галоўным арганізатарам канцэрта Бельскага хору было Куяўска-паморскае культурнае таварыства ў Быдгашчы, суарганізатарамі — установы і арганізацыі ў паасобных мясцовасцях.

26 лістапада бельскі хор пакінуў Быдгаскую зямлю, адбываючы пасля тыднёвай гасціны дамоў. Цяжка апісаць тую радасць і задавальненне, якую адчувалі нашы самадзейнікі ў час выступленняў і ўсёй паездкі на гасціннай Быдгаскай зямлі. Гэта паездка не толькі спрыяла папулярызацыі беларускай песні і наогул дзейнасці БГКТ у цікавым рэгіёне Польшчы, але таксама будзе садзейнічаць далейшаму развіццю майстэрства самога калектыву. Ён здабыў новых, сардэчных сяброў, убачыў новую, цікавую ролю, якую можна сыграць па-за Бельскам.

Варта тут падкрэсліць дапамогу ПК ПАРП у Бельску, які перад выездам узяў у свае рукі вельмі клапатлівую справу — справу водпуску на час паездкі членаў калектыву. Бельскія харысты варты былі ўсіх захадаў: здалі важны экзамен на пяцёрку.

*Валя Філіпюк*



*Бельскі хор на сцэне павятовага дома культуры ў Сэмпульне Краенскім.*

# Шмат чаму можна навучыцца ў беларусаў...

У другой палове лістапада на Беларусі пабывала дэлегацыя работнікаў кіруючых органаў Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Дэлегацыю ўзначальваў намеснік кіраўніка аддзела сельскай гаспадаркі ЦК ПАРП, таварыш СТАНІСЛАЎ СОБЧЫК, які згадзіўся расказаць пра свае ўражанні чытачам «Нівы».

*«Ніва»:* Як нарадзілася думка, каб наведаць менавіта Савецкую Беларусь?

*Станіслаў Собчык:* Наша пабыўка ў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы была наладжана згодна з планам міжпартыйнага супрацоўніцтва.

Н.: Хто ўваходзіў у склад дэлегацыі, якой вы кіравалі?

*Ст. С.:* Яна складалася з сямі таварышаў, якія працуюць у сельскагаспадарчым аддзеле ЦК ПАРП, 15-ці адказных партыйных работнікаў ваяводскіх камітэтаў і 18-ці павятовых сакратароў — больш менш з усіх куткоў Польшчы...

*Н.:* ...і з Беласточчыны?

*Ст. С.:* Так, у саставе нашай дэлегацыі быў кіраўнік сельскагаспадарчага аддзела Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку.

*Н.:* Якія раёны БССР вы наведалі?

*Ст. С.:* Мы пабывалі ў некаторых раёнах Брэсцкай і Мінскай вобласцей. Цікавіліся арганізацыяй сельскагаспадарчай вытворчасці. Вось у Баранавіцкім раёне савецкія таварышы паказалі нам саўгас «Рагазінскі». Гэта вялікая гаспадарка, якой падпарадкавана звыш сямі тысяч гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў. Саўгас існуе 12 год. Быў ён заснаваны на базе дзесяці занядбаных калгасаў. Цяпер гэтая дзяржаўная гаспадарка перадавая ў раёне. Адных толькі спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй налічваецца там 28 чалавек. Усе цяжкія, асабліва палявыя працы тут поўнасцю механізаваны. Менавіта вялікая колькасць людзей з вышэйшай і сярэдняй прафесіянальнай адукацыяй і высокі ўзровень механізацыі рабілі на нас самае неспадзяванае ўражанне. Тут адчуваўся пульс сацыялістычнай сельскай гаспадаркі.

У Баранавіцкім раёне мы яшчэ пазнаёміліся з калгасам «Перамога», які ўзнік на аснове даўнейшых васьмі вёсак. Мае ён звыш 5 тысяч гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў і спецыялізуецца ў прадукцыі свініны. Паказалі нам там, між іншым, ферму парасят, у якой змяшчаецца іх аж 8 тысяч штук. Калгаснікі гадуюць гэтых парасят да

Працяг на стар. 4


*Пад Гарадком.* *Фота В. Рудчыка*

# БГКТ хроніка

■ 7 снежня ў вёсцы Залукі кінапераcоўкай ГП БГКТ былі паказаны два савецкія фільмы «Прерваная песня» і «Далеко на западе». Пасля фільмаў старшыня беластоцкага павятовага аддзела Янка Цялушэцкі расказаў прысутным аб ролі і заданнях Беларускага таварыства, а таксама аб святкаванні 50-ай гадавіны СССР і аб мерапрыемствах, якія арганізуе БГКТ. 28 асоб, прысутных на сходзе, выказала ахвоту быць членамі БГКТ і падпісала членскія дэкларацыі. Цяпер гуртоk БГКТ у Залуках (старшыня Марыся Цыванюк) налічвае 40 чалавек. Напярэдадні агульнавясковага сходу актывісты гуртка сабраліся і абмяркоўвалі план працы на асенне-зімовы сезон. Член праўлення гуртка Зіна Паплаўская расказала аб намеры ўтварэння мастацкага калектыву, які ўзяўся б за падрыхтоўку на беларускай мове слоўна-музычнага мантажу. Абмяркоўваліся таксама справы ўдзелу некаторых жыхароў Залук у конкурсе на «Беларускую песню — 73». Варта адзначыць яшчэ і тое, што ў Залукі інструктар ГП БГКТ на Беластоцкі павет Геня Іванюк даставіла фатаграмы для выстаўкі аб дасягненнях тэхнікі Беларускай ССР, якая экспануецца ў мясцовым клубе.

■ Гуртоk БГКТ у Міхалове быў ініцыятарам утварэння там харавога калектыву, аб чым пісалі мы раней. Члены гуртка таксама актыўна ўключыліся ў арганізацыю драмгуртка. Цяпер пад кіраўніцтвам Валі Казімерчык падрыхтоўваецца ў Міхалове трагікамедыя Андрэя Макаёнка «Трыбунал». З гэтай п'есай міхалоўскія самадзейнікі будуць выступаць падчас агляду тэатральных калектываў, якія арганізуе БГКТ.

■ 2 снежня ў вёсцы Сухавольцы на Гайнаўшчыне член прэзідыума ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі выступіў з дакладам на тэму 50-ай гадавіны СССР; ён таксама чытаў свае вершы.

3 снежня правёў ён аўтарскую сустрэчу ў Горным (Гайнаўка), пасля якой апаратурай ГП БГКТ быў паказаны савецкі фільм «Далеко на западе».

■ З нагоды 50-ай гадавіны СССР у Кленіках (Гайнаўскі павет) адбыўся ўрачысты вечар, арганізаваны школай і членамі БГКТ. З дакладам з нагоды юбілея СССР выступіў дырэктар школы Васіль Пучко. Пасля адбылася мастацкая частка, якую падрыхтавалі настаўніцы Ніна Кабац і Генрыка Чарнэцка.

■ Беларускі харавы калектыў бельскага аддзела БГКТ 2 снежня даў канцэрт для вучняў мясцовага беларускага ліцэя. 3 снежня ён у гэтай самай школе выступіў з канцэртам для іх бацькоў, якія сабраліся ў гэты дзень на вывадоўку.

■ У пачатковай школе № 3 у Бельску Падляшскім добра развіваецца мастацкая самадзейнасць. Існуюць там калектывы: а) акардэаністаў, б) мандаліністаў і гітарыстаў, в) харавы калектыў. Працуюць яны пад мастацкім кіраўніцтвам Сяргея Лукашука. Рыхтуюць яны цікавую праграму, у якой знаходзіцца шмат беларускіх песень.

■ 10 снежня адбылося чарговае пасяджэнне прэзідыума беластоцкага павятовага праўлення аддзела. Абмяркоўваліся задачы аддзела і спосабы іх ажыццяўлення, якія вынікаюць з пастаноў VII з'езду БГКТ.

Прэзідыум зацвердзіў таксама прыналежнасць да БГКТ 65 новых членаў.




## СВЕТ

### ПОЛЬСКА-МАНГОЛЬСКІ ДАГАВОР

15 снежня г.г. у Улан Батар парафіраваны дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве паміж Польшчай і Манголіяй.

Манголія зацікаўлена пашырэннем супрацоўніцтва з Польшчай. Сведчыць пра гэта сардэчная атмасфера ў часе візіту ў Манголіі нашага міністра замежных спраў Стэфана Альшоўскага.

Польшча ў мінулым годзе падпісала многа дагавораў, якія канкрэтызавалі розныя галіны супрацоўніцтва. У гэтым годзе мінае 15-годдзе падпісання гандлёвага дагавору. І хаця магчымасці таварнага абмену яшчэ не поўнасцю выкарыстаны, то ўсё ж тавараабарот паміж абедзвюма дзяржавамі павялічыўся за гэты перыяд з 0,5 да 6,5 мільёна рублёў.

### ЗАКАНЧЭННЕ КАСМІЧНАЙ ПРАГРАМЫ

«Апалон» — 17», споўніўшы сваю місію на Месяцы, заканчвае свой палёт.

Напомнім, што ў студзені 1967 года меў адбыцца першы палёт. На месячным караблі паўстаў трагічны пажар. Палёты былі адложаны. Потым вакол Месяца лёталі касманаўты на «Апалоне» — 7 і 8» і ўрэшце экіпаж «Апалона» — 11» першы апынуўся на Месяцы. Трэці палёт на «Апалоне—13» нельга назваць удачным. На караблі наступіў выбух бачка з кіслародам і вяртанне экіпажа на Зямлю было праблематычным. Аднак заканчэнне аказалася шчаслівым. Наступныя палёты былі таксама ўдачнымі.

Вялікая праграма заваёўвання Месяца («Апалон») каштавала Злучаным Штатам Амерыкі 25 мільярдаў долараў.

### АЎТАЗАВОД У ТАТАРЫІ

У Татарыі, на тэрыторыі 100 кв. км, г.зн. паверхні, роўнай тэрыторыі сярэдняй велічыні горада, паўстае комплекс фабрык аўтамабільнага камбіната.

Праз кожныя паўтары мінуты з 1,5-кіламетровага канвеера будзе сходзіць сучасны грузавы аўтамабіль з грузападымальнасцю ў восем, дзесяць і больш тон. Пасля поўнага пуску аўтазавод будзе выпускаць 150 тыс. аўтамабіляў у год, а ў далейшым — 200 тысяч грузавікоў.

Трэба памятаць, што першая праца пры пабудове фабрыкі распачалася ў снежні 1969 года, а ў 1974 годзе з канвеера зыйдзе першы самаход.

Пабудова аўтазавода ў Набярэжных Чэльнах будзе каштаваць 3 мільярды рублёў. «Камаз» (так будуць называцца аўтамабілі) гэта поўнасцю твор савецкіх канструктараў. Праект матора таксама створан у савецкіх праектных бюро.

### ПЕРШЫЯ ВЫНІКІ

Кансультацыя ў Хельсінках, якая рыхтуе еўрапейскую канферэнцыю бяспекі і супрацоўніцтва, спынена ў сувязі з святам да 15 студзеня 1973 года.

Дыялаг над будучыняй Еўропы адбываецца пры ўдзеле 32 дзяржаў еўрапейскага кантынента, а таксама ЗША і Канады. Ужо гэта сведчыла, што выступіць розніца поглядаў. Яна выступіла, але ўпершыню ў пасляваеннай гісторыі не была яна з'едлівай і была пазбаўлена ўзаемных прэтэнзій.

Новая атмасфера многабаковых нарад дазволіла перамагчы разыходжанне ў працэдуральных справах і вырашыць іх кампрамісам. (ак)

## БССР

### НАПЯРЭДАДНІ 50-ГОДДЗЯ СССР

Ва ўсіх раёнах БССР ужо сёння адчуваецца набліжэнне вялікага свята савецкага народа. У абстаноўцы высокай палітычнай актыўнасці праходзяць у гэтыя дні пасяджэнні партыйных камітэтаў і Саветаў дэпутатаў працоўных у гарадах, раёнах і вёсках, на заводах і ў калгасных і саўгасных гаспадарках. Яны даюць доказ адзінства і згуртаванасці беларускага народа з іншымі народамі вялікага Саюза. Гэтыя і іншыя ўрачыстасці ўжо адбыліся ў Брэсце, Віцебску, Гомелі, Гродне і Магілёве.

### У ГОНАР ЮБІЛЕЮ

Рыхтуючы дастойную сустрэчу 50-годдзю ўтварэння СССР, працаўнікі сельскай гаспадаркі Іванаўскага раёна датэрмінова, 10 снежня, выканалі гадавы план нарыхтовак малака, мяса, яек і воўны. Да канца года яны прададуць яшчэ 750 тон малака, 600 тон мяса, 250 тыс. яек.

Датэрмінова, 8 снежня, выканалі гадавы план калектывы арганізацый і прадпрыемстваў Мінскага абласнога аб'яднання «Сельгастэхнікі». Яны аказалі намнога большую дапамогу механізатарам вобласці, чым прадугледжваў план. Адначасова перавыканалі заданні па механізацыі жывёлагадоўчых ферм, здабычы торфу, вапнаванню кіслай глебы.

Падобныя паведамленні штодзень паступаюць з многіх куткоў Савецкай Беларусі.

### М. С. АРЭХВУ — 70 ГОД

Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР прызнаў вядомаму грамадскаму дзеячу ў Беларусі і старэйшаму навуковаму супрацоўніку Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП Беларусі М. С. Арэхву ордэн Кастрычніцкай Рэвалюцыі. Уручаючы гэтую высокую ўзнагароду, старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Ф. А. Сурганаў асабліва падкрэсліў заслугі таварыша Арэхвы ў рэвалюцыйным руху, актыўны яго ўдзел у грамадска-палітычнай і навуковай рабоце.

М. С. Арэхву споўнілася ўжо 70 год.

### ГОСЦІ З ФРАНЦЫІ

У Беларусі пабывала дэлегацыя таварыства «Францыя — СССР». Яе ўзначальваў член прэзідэнцкага савета гэтай грамадскай арганізацыі, прафесар Сарбоны — Ражэ Парталь. Дэлегацыя пабывала ў горадзе Жодзіна, які ўтрымоўвае пабрацімскія кантакты з французскім горадам Венсье. Жодзінцы падрыхтавалі гасцям з Францыі вельмі цёплы прыём. Затым члены дэлегацыі наведалі мінскі Палац піянераў і школьнікаў, а прафесар Р. Парталь сустрэўся з кіраўніцтвам Саюза пісьменнікаў БССР. Сустрэча адбылася ў прысутнасці іншых беларускіх пісьменнікаў і паэтаў. Яны правялі шчыры абмен думкамі па пытаннях далейшага расшырэння сувязей між пісьменнікамі Беларусі і Францыі.

### ЗАКОНЧЫЎСЯ КОНКУРС

У Магілёўскай вобласці закончыўся конкурс калектываў мастацкай самадзейнасці, прысвечаны 50-годдзю СССР. Пераможцамі аказаліся калектывы Магілёўскага гарадскога Дома культуры, танцавальны ансамбль Палаца культуры завода штучнага валакна. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### ПАСЯДЖЭННЕ СЕЙМА ПНР

15 і 16 снежня адбывалася двухдзённае пасяджэнне Сейма ПНР, якое прысвячалася абмяркоўцы плана і бюджэту на 1973 год. На заканчэнне пасяджэння план гэты быў прыняты Сеймам да рэалізацыі. Апрача таго, Сейм прыняў дзевяць пастаноў, унесеных урадам.

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО

12 снежня адбылося пасяджэнне Палітбюро ЦК ПАРП, на якім былі абмеркаваны задачы і дзейнасць рэсортаў і ўстаноў, адказных за замежную палітыку нашай краіны. Сувязі з замежнымі краінамі будуць пашыраны перш за ўсё ў гаспадарчай галіне.

### ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ЎРАДА

13 снежня адбылося пасяджэнне Прэзідыума ўрада, якое прысвячалася справам расходвання гаручага і электраэнергіі да 1990 года. Былі разгледжаны таксама гаспадарчыя справы, а сярод іх намеры адносна ўдасканальвання сістэмы крэдытаў на сельскагаспадарчыя мэты.

### ПЛЕНУМ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РЭВІЗІЙНАЙ КАМІСІІ ПАРП

14 снежня адбылося пленарнае пасяджэнне Цэнтральнай рэвізійнай камісіі ПАРП, на якім было падсумавана выкананне задач 1972 года і намечаны асноўныя напрамкі дзейнасці рэвізійных камісіяў на наступны год. З дакладам выступіў старшыня ЦКР ПАРП А. Лашэвіч. У дыскусіі многа ўвагі прысвечана ўнутраным партыйным праблемам і задачам рэвізійных камісіяў у справаздачна-выбарнай кампаніі.

### ПЛЕНАРНАЕ ПАСЯДЖЭННЕ ЦЗКР

13 снежня адбылося пасяджэнне праўлення Цэнтральнага саюза сельскагаспадарчых гурткоў, на якім былі абмеркаваны напрамкі паляпшэння кіравання гаспадаркай сельгасгурткоў і праграма іх дзейнасці ў кірунку інтэнсіфікацыі сельскай прадукцыі, а перш за ўсё прадукцыі мяса і малака.

### ВІЗІТ Э. ГЕРКА

14 снежня І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк наведаў ПГР «Мысядла» ў Пясэчынскім павеце, які займаецца вырошчваннем агародніны. Рабочы калектыў ПГР выканаў свае абавязацельствы, прынятыя ў рамках акцыі «20 мільярдаў». Склалі яны суму 18 мільёнаў злотых. І сакратар ЦК ПАРП цікавіўся таксама будовай жылых кватэр членам ПГР.

### ВІЗІТ Э. ГЕРКА І П. ЯРАШЭВІЧА

16 снежня І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк і старшыня Рады Міністраў П. Ярашэвіч наведалі праектантаў і выканаўцаў Цэнтральнага вакзала ў сталіцы. Вакзал будзе перададзены ў карыстанне ў канцы 1975 года. Будзе гэта адна з найважнейшых інвестыцыйных задач пяцігодкі.

### ТРЫГОРАД НА ШЛЁНСКУ?

Нарадзілася канцэпцыя, каб Сасновец, Бэндзін і Дамброву спалучыць у адзін вялікі горад на Шлёнску. Зараз у сувязі з пабудовай гуты «Катовіцы» неабходна пабудаваць тут тысячы кватэр, а таксама новыя школы, кіно, тэатры, цэнтры паслуг. (ця)

## ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕНУМ ВК ПАРП і ВК ЗСЛ

14 снежня адбыўся супольны пленум ВК ПАРП і ВК ЗСЛ. Тэмай пасяджэння былі задачы беластоцкай сельскай гаспадаркі, вынікаючыя з пастаноў VI з'езду партыі, і іх выкананне, а таксама ўстанаўленне агульных прынцыпаў развіцця сельскай гаспадаркі нашага ваяводства ў наступнай пяцігодцы. Прысутнічалі на пленуме намеснік члена Палітбюро ЦК ПАРП, сакратар ЦК К. Барцікоўскі і намеснік старшыні Камісіі Планавання пры Радзе Міністраў Л. Цэгельскі. Вялі пасяджэнне І сакратар ВК партыі З. Куроўскі і прэзас ВК ЗСЛ Ю. Сапяжынскі. З дакладам выступіў сакратар ВК партыі С. Завадзінскі. А дыскусія адбывалася спачатку ў пяці праблемных групах, а затым супольна.

Як адзначалася ў дакладзе, задачы, вызначаныя на першыя два гады пяцігодкі, наогул выкананы, а ў некаторых галінах і перавыкананы. Атрыманы былі даволі высокія ўраджаі збожжа, бульбы і цукровых буракоў. Павялічылася таксама пагалоўе кароў і свіней. Галоўнай задачай нашай сельскай гаспадаркі ў сучасны перыяд з'яўляецца хутчэйшы ўзрост сельскагаспадарчай прадукцыі ў тых галінах, дзе ёсць на гэта адпаведныя магчымасці. Пачынаючы ад 1973 года, кожны гектар сельскагаспадарчых угоддзяў павінен быць добра загаспадараны. Рацыянальнае выкарыстоўванне зямлі будзе галоўным крытэрыем у ацэнцы працы людзей і ўстаноў, якія займаюцца гэтай справай.

У сучасны момант у жывёлагадоўлі задавальняючае становішча існуе ў гадоўлі свіней (82,6 штук на 100 га), горш у гадоўлі быдла (47,3 галоў на 100 га) і авечак (20,3 штук на 100 га). Прычым у Лапскім, Сэйненскім, Высокамазавецкім і Ломжынскім паветах колькасць свіней перавышае 100 штук на 100 га, а ў Сакольскім ці Бельскім — у межах 70 штук. Падкрэслівалася патрэба больш будаваць для сельскай гаспадаркі, прысвяціць больш увагі спулдзельчаму сектару, а таксама значную ўвагу звярнуць на развіццё прамысловасці перапрацоўкі прадуктаў сельскай гаспадаркі.

У падсумоўваючай частцы дыскусіі прадстаўнікі пяці спецыялістычных калектываў прадставілі свае прапановы, а затым выступіў К. Барцікоўскі. Ён высока ацаніў вынікі, дасягнутыя беластоцкай сельскай гаспадаркай.

Як узнагароду за добрую працу цэнтральныя ўлады вырашылі даручыць Беластоку арганізаваць у наступным годзе краёвыя дажынкі. Аб эфектах і патрэбах нашай сельскай гаспадаркі гаварыў таксама Л. Цэгельскі.

На заканчэнне пленума была прынята пастанова ВК ПАРП і ВК ЗСЛ аб задачах беластоцкай сельскай гаспадаркі. «Выкананне амбітнага плана, прынятага на пленуме ВК ПАРП і ВК ЗСЛ, — сказаў у заключным слове З. Куроўскі, — стаўкай якога з'яўляецца перавыкананне заданняў, намечаных пастановамі VI з'езду партыі, патрабуе таго, каб добрае гаспадаранне, умелае выкарыстоўванне магчымасцяў і рэзерваў стала амбіцыяй кожнага гаспадара і працаўніка ўстаноў, якія абслугоўваюць сельскую гаспадарку». (яч)




**Niedziela 24.XII.**

8.55 Program dnia. 9.00 Dla młodych widzów: „Maroszek" — film fab. czechosł. cz. I 10.10 „Uwaga! Alarm przeciwpożarowy". 10.20 „Saga rodu Śliwków" — rep. film. 10.50 „W starym kinie" — Elżbieta Barszczewska. 11.50 Dziennik. 12.05 „Kolędy i pastorałki". 12.30 „Przemiany" — specjalne wydanie świąteczne. 13.10 Dla młodych widzów: „Opowieści Beatrycze — film. bajka muzyczna ang. 14.35. „Sapporo 72" — najważniejsze wydarzenia Olimpiady Zimowej. 15.00 „Pojedynek" — teleturniej — runda I. 15.40 „Kryteria". 15.50 Estrada Literacka: T. Urgacz — „Latarnia magiczna". 16.40 „Największy balet świata" — transmisja z Opery Paryskiej Galowego Koncertu UNICEF. 18.20 „Tele-Echo" — specjalne wydanie świąteczne. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Gody" — film TVP („Chłopi") odc. V. 21.00 „Jan Kobuszewski" („Mistrzowie estrady"). 21.50 „Wicehrabia de Bragellone" — film fab. franc. 23.20 „Loulsa Jane Withe i jej piosenki".

**Poniedziałek 25.XII.**

8.55 Program dnia. 9.00 Dla młodych widzów: „Maroszek" — film fab. czechosł. odc. II. 10.00 „Śladem jednego listu" („Klub Sześciu Kontynentów"). 10.40 „Monachium 72" — najważniejsze wydarzenia XX Igrzysk Olimpijskich. 12.00 Dziennik. 12.10 „Wszystkiego po trochu" — program rozr. TV NRD. 13.30 Dla dzieci: „Książę Bajaja" — film fab. czechosł. 14.50 Koncert fortepianowy e-moll F. Chopina. — gra Barbara Hesse-Bukowska. 15.30 Teatr Młodego Widza: K. I. Gałczyński — „Noc cudów czyli babcia i wnuczek". 16.30 „Jak rozpętałem II wojnę światową" — film fab. pol. cz. I — „Ucieczka". 17.55 „Studio 13". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV. A. Fredro — „Zemsta". 21.50 „Siedmiu wspaniałych" — film fab. USA. 23.55 „Moskiewskie przeboje" — program TV Moskiewskiej.

**Wtorek 26.XII.**

8.55 Program dnia. 9.00 Dla młodych widzów: „Maroszek" — film fab. czechosł. odc. III. 10.10 „Cyrk bez granic" — film dok. franc-rum. 11.25 „W kręgu mistrzów sztuki". 12.00 „Piórkiem i węglem". 12.45 Sprawozdanie z Międzynarodowych zawodów narciarskich Polska — Czechosłowacja (slalom specjalny). 14.30 „Bellissima" („Żywoty pań sławnych") — Helena Modrzejewska. 15.40 „Monachium 72" — polscy medaliści XX Igrzysk Olimpijskich. 16.25 „Przygoda mojego życia". 17.10 „Jak rozpętałem II wojnę światową" — film fab. pol. cz. II. 18.20 „A la Espanola" — program rozr. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik, Wiadomości sportowe. 20.05 „Tom Jones" — film fab. ang. 22.10 „Królowa Przedmieścia".

**Środa 27.XII.**

9.00 TELEFERIE: „Rosomak Minado" — film W. Disney'a. 10.10 „Gody" — film TVP „Chłopi") odc. V. 15.00 Program dnia. 15.05 „Wybieramy zawód". 15.25 „Oferty". 15.40 Fragment finałowego meczu piłkarskiego Polska — Węgry (Olimpiada — Monachium 1972). 16.30 Dziennik 16.40 II TV Festiwal Widowisk Lalkowych dla Dzieci: J. Ośnica — „Baśń o dwóch braciach" — widowisko Państw. Teatru Lalek „Pleciuga" w Szczecinie. 17.50 „Informacje, Towary, Propozycje". 18.05 Polski Film Dokumentalny: „Budowałem miasto". „Jeden plus jeden". 18.30 TV Kurier Warszawski. 18.50 „Już po dwunastej". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Kondotier Bartolomeo Colleoni" — film franc. („Słynne ucieczki"). 20.55 „Świat i Polska". 21.45 „Mistrzowie batuty" — Zygmunt Latoszewski. 22.15 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Czwartek 28.XII.**

9.00 TELEFERIE: „Wierna gołąbka" — film W. Disney'a. 10.10 „Kondotier Bartolomeo Colleoni" — film franc. („Słynne ucieczki"). 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 II TV Festiwal Widowisk Lalkowych dla dzieci: G. Morcinek — „Jak górnik Bulandra diabła oszukał" widowisko Państw. Teatru Lalek „Banialuka" w Bielsku-Białej. 17.45 PKF. 17.55 „ZSRR-50". 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr Kobra: T. Poely — „Kto zabił św. Mikołaja". 21.05 „Refleksje". 21.35 „Ekspres nr 16". 22.05 „Portrety 72". 22.35 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Piątek 29.XII.**

9.00 TELEFERIE: „„O psie, który myślał, że jest szopem" — film W. Disney'a. 10.10 „Spojrzenie ze szczytów Alp" — film fab. wł. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 II TV Festiwal Widowisk Lalkowych dla Dzieci: J. Szwarc — „Klonowi bracia" — widowisko Państw. Teatru Lalek „Pinokio" w Łodzi. 17.45 „Nie tylko dla pań". 18.10 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 „Turystyka i wypoczynek". 18.45 „Magazyn Medyczny". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Montenegro 5" — program rozr. jugosł. 20.30 Panorama Tygodnia. 21.10 Teatr TV: „Poczdam 1945". 22.50 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Sobota 30.XII.**

9.00 TELEFERIE: „Kujot Chico" — film W. Disney'a. 10.00 „Plac Czerwony" — film fab. radz. 12.25 Konkurs 4-ch skoczni. I konkurs skoków narciarskich w Obersdorf. 15.00 Program dnia. 15.05 Program I proponuje. 16.05 Telereklama. 16.30 Dziennik. 16.40 II TV Festiwal Widowisk Lalkowych dla Dzieci: M. Kownacka — „O Kasi, co gąski zgubiła" — widowisko Państw. Teatru Lalek w Wałbrzychu. 17.50 „Moskiewskie spotkania" — film dok. TVP i APN. 18.30 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.10 Przemówienie Ambasadora ZSRR. 20.25 Filmy, które warto zobaczyć: „Plac Czerwony" — film fab. radz. 22.50 Dziennik. Wiadomości sportowe. 23.15 Teatr Rozrywki: G. Caillavet i R. Flers — „Zakochani".




**Piątek, 22 grudnia**

7.55 Transmisja z Pałacu Zjazdów (Kreml). 16.50 Dla dzieci. 17.20 Film dokument. 17.50 Jezioro Łabędzie. Balet. Spektakl Teatru Wielkiego. 19.00 Czas. 19.45 c. d. Jeziora Łabędziego. 20.45 Hokej. Czechosłowacja — Finlandia. 3 tercja.

**Sobota, 23 grudnia**

7.30 Szkatułka muzyczna. 7.40 ZSRR—50. 8.25 Film fab. 10.30 ZSRR—50. 11.15 Przegląd międzynarodowy. 11.30 Spotkania muzyczne. 12.00 Hokej. ZSRR — Czechosłowacja. 14.50 Filmy animowane. 15.30 Europa. 16.00 Koncert. Transmisja z Teatru Wielkiego. 17.30 Spektakl TV. 19.00 Czas. 19.30 Film fab. 21.00 Kronika muzyczna.

**Niedziela, 24 grudnia**

7.00 Program dnia. 8.30 Kiosk muzyczny. 11.45 W świecie zwierząt. 12.45 Konkurs TV. 13.45 Klub filmowy. 16.10 Film animowany. 16.30 Ekran dokumentalny. 18.00 Spektakl TV. 19.00 Czas. 21.00 Tańczcie z nami. 21.25 Koszykówka. RTJ (Mińsk) — „Kalew" (Tartu).




## ПАЭТЫЧНЫ ВЯНОК ДЛЯ ЛОДЗІ

З праўдзівай прыемнасцю адзначаем, што мінскае выдавецтва *«Мастацкая літаратура»* зусім нядаўна, прыпаднесла рабочаму гораду Лодзь цудоўны паэтычны вянок вершаў, якія склалі старанна аформлены зборнік *«Горад мільённы і мы. Паэзія чырвонай Лодзі»*. Фірмуюць яго сваімі прозвішчамі флагманы беларускай літаратуры *Янка Брыль і Максім Танк.*

Ва ўступным слове да зборніка чытаем:

*«...Зборнік вершаў «Горад мільённы і мы» прадстаўляе творчасць розных пакаленняў польскіх паэтаў, якія нарадзіліся або выраслі ў Лодзі, нейкі час жылі і працавалі ў гэтым горадзе, звязаны з яго слаўнымі патрыятычнымі і рэвалюцыйнымі традыцыямі, з яго рабочай тэмай...»*

Чым жа тады сталіца польскіх тэкстыльшчыкаў заслужыла на ўвагу беларускіх выдаўцаў і перакладчыкаў?

Думаючы пра гэта, я ўспомніў вялікі артыкул Янкі Брыля *«Рэха заўсёды са мной»*, які быў надрукаваны на старонках тыднёвіка «Літаратура і мастацтва» яшчэ ў снежні 1970 года. Цяперашні рэдактар зборніка «Паэзія чырвонай Лодзі» апісваў там свае кантакты з польскімі пісьменнікамі і з польскай літаратурай.

Янка Брыль, між іншым, пісаў:

*«(...) хачу сказаць пра Гушчу і пра лодзінскіх сяброў. Выпадкова, праездам і сціпла, амаль незаўважна, ён пабываў у нас, Ян Гушча, увосень шэсцьдзесят восьмага года. Не любіць гэты чалавек ні гучных, ні салодкіх слоў, зусім абыдзен быў ён нашай увагай як паэт і празаік. Ды вось прайшло два гады і, дзякуючы ініцыятыве і, я сказаў бы сяброўскаму подзвігу Яна Гушчы, у лодзінскім (абласным!) выдавецтве выходзіць анталогія беларускай паэзіі, падрыхтавана да выдання кніга вершаў Багдановіча. (...) Дапамагалі Яну Гушчу перакладаць лодзінскія паэты Тадэуш Хрусцялеўскі, Мацей Кановіч, Ігар Сікірыцкі: выдавецтва там узначальвае празаік і публіцыст Веслаў Яжджынскі: шмат беларускага публікуе лодзінскі літаратурны штотыднёвік* «Odgłosy» *(«Водгулле»), які рэдагуе паэт Ян Капроўскі.*

*Сведчачы нашу ўдзячнасць і жаданне дружыць таксама па-дзелавому, беларускія часопісы даволі шчодра друкавалі сёлета паэзію і прозу Гушчы і яго сяброў-памочнікаў, а хутка будзе надрукавана кніга (...) «Паэзія чырвонай Лодзі». Ад Тувіма і Бранеўскага да нашых дзён, да самых маладых.*

*Няхай гэта будзе добрым пачаткам!»*

Значыць, зборнік «Горад мільённы і мы» нарадзіўся з творчага польска-беларускага сяброўства. Ён сапраўды адкрываецца вершам Уладзіслава Бранеўскага «Лодзь» з 1931 года, у якім паэт ужо тады прадвяшчаў, што «Рэч Паспаліта будзе ў маланках». А зараз жа пасля Бранеўскага знаходзім аднайменны твор Юльяна Тувіма і іншыя вершы гэтага паэта, для якога Лодзь была калыскай. Тут, між іншым, змешчаны прыгожы пераклад Максіма Танка аднаго з урыўкаў паэмы *«Польскія кветкі»*. Разам у зборніку на двухстах старонках знайшлося месца для твораў 43 аўтараў, сярод якіх выдаўцы далі першынство вядомым лодзінскім паэтам: Яну Гушчу і Тадэушу Хрусцялеўскаму, Яну Капроўскаму, Мацею Кахановічу, Станіславу Чэрніку і Ігару Сікірыцкаму.

У загалоўках перакладзеных твораў найчасцей паўтараецца назва *«Лодзь»*. Янка Брыль так склаў гэты зборнік, што ў ім найбольш месца адводзіцца адлюстраванню ў паэзіі барацьбы лодзінскага пралетарыяту з капіталістычным прыгнётам. Часта таксама паўтараецца тэма працы — гэтай цяжкай, даваеннай, знясільваючай, заклікаючай на барацьбу, і цяперашняй, стваральнай працы дзеля агульнага дабра. Але не толькі гэта ёсць у зборніку. Перакладзеныя вершы, асабліва паэтаў малодшага пакалення, творчасць якіх здзяйсняецца на нашых вачах, даюць ўяўленне беларускаму чытачу аб навейшых імкненнях, тэматычных і фармальных пошуках сучаснай польскай паэзіі.

Слова аб перакладчыках. Іх многа. М. Танк, М. Лужанін, Я. Семяжон, Н. Тарас, П. Макаль, А. Клышка, С. Дзяргай, Р. Семашкевіч, П. Пестрак, Н. Арочка, В. Вітка, Д. Бічэль-Загнетава, Р. Барадулін, Л. Лойка, Ул. Караткевіч і іншыя. Ужо адны гэтыя прозвішчы выдатных беларускіх паэтаў сведчаць аб тым, што рэдактар зборніка пастараўся, каб апрацоўка польскіх тэкстаў апынулася ў руках дасканалых майстроў паэтычнага слова. Са сваім заданнем (на мае адчуванні) справіліся яны добра. Польская паэзія здабыла тады новых сяброў.

***Віктар Рудчык***

## БУРЛІЦЬ ЖЫЦЦЁ Ў ДУБІНСКІМ ГОК-у

Доўгія зімовыя вечары спрыяюць ажыўленню клубнага жыцця ў вясковым асяроддзі. Наведалі мы грамадскі культурны цэнтр (ГОК) у вёсцы Дубіны Гайнаўскага павету. У ГОК-у ёсць кіназал, бібліятэка і клуб. Моладзь, згуртаваная пры цэнтры, вядомая ў сваёй акрузе з-за мастацкай самадзейнасці. У пачатку гэтага года ставіла яна п'есу Г. Калінскага пад загалоўкам «Залатыя каскі», выступала з беларускімі і рускімі песнямі, гумарам і скетчамі. Усім спадабаліся выступленні музычнага калектыву.

Што зараз дзеецца ў дубінскім ГОК-у? Чым займаецца тутэйшая моладзь зараз у доўгія зімовыя вечары? З такімі пытаннямі-думкамі пераступіў я парог ГОК-у. З працай яго знаёміла мяне кіраўнік ГОК-у, маладая дзяўчына, якая пачала працу ў пачатку кастрычніка г.г., Галіна Валенда і мясцовая моладзь: Уладзімір Пракапчук, Крыстына Ярмоц і іншыя. Маладыя юнакі і дзяўчаты рыхтаваліся пры дапамозе інструктара павятовай культурна-асветнай парадні ў Гайнаўцы Уршулі Устынюк да чарговага мерапрыемства — анджэйкаў.

— Не адразу можна было весці культурную працу ў клубе, — кажа кіраўнічка Галіна Валенда. Былі такія юнакі, якія забывалі зняць шапку ў клубе або пакінуць курыць у кіназале. Вучылі мы тады, як трэба сябе культурна весці.

У пачатку лістапада г.г. пачаў працу пад кіраўніцтвам Славаміра Місеюка (інструктара культурна-асветнай парадні) тэатральны калектыў. Працуе ён над падрыхтоўкай дзвюх п'ес на беларускай мове: «Гора чубатае» і «У ціхім кутку». Займаюцца ў ім наступныя самадзейнікі: Уладзімір Пракапчук, Крыстына Ярмоц, Сцяпан Садоўскі, Яўген Шэшка, Ірэна Лапінская, Люцына Ахрымюк, Галіна Ярмоц, Галіна Якаўюк і Галіна Валенда. Некаторыя выступаюць у адной і другой п'есе. Маладыя акцёры рыхтуюцца да агляду тэатральных калектываў, а таксама прымаюць удзел у конкурсе «Бліжэй тэатра».

Музычны калектыў «Аркады» працуе над рэпертуарам, а таксама рыхтуе слоўна-музычны рэпартаж на вечарыну, якая адбудзецца з нагоды святкавання 50-ай гадавіны СССР. Вядзе яго кіраўнік гайнаўскай парадні Аляксандр Лукашук. Салісткай калектыву з'яўляецца Галіна Ярмоц. Калектыў рыхтуецца да ўдзелу ў конкурсе на беларускую песню.

Пры ГОК-у існуе танцавальны дзіцячы калектыў, які налічвае 22 асобы. У клубе адбываюцца спецыяльна для дзяцей вечарыны казак, якія спалучаюцца з дэманстрацыяй каляровых дыяфільмаў, сустрэчы з цікавымі людзьмі — акцёрамі, пісьменнікамі, афіцэрамі, вечарыны гульняў для дзяцей, чытанне ўголас цікавых твораў з дзіцячай мастацкай літаратуры, дыскусійныя вечарыны дарослай моладзі над цікавымі кінафільмамі. Можна было тут паглядзець канцэрт саліста, прысвечаны паэзіі Ясеніна, выстаўку сельскагаспадарчай кніжкі. Часта ў клубе адбываюцца танцавальныя вечарыны.

У недалёкай будучыні ў ГОК-у адбудуцца рэпетыцыі калядніоў, сустрэча з вядомым гайнаўскім мастаком Янкам Салаванюком. Пачне працу фатаграфічная секцыя, для якой ужо створаны ўсе ўмовы. Сярод моладзі наглядаецца вялікае зацікаўленне грамадска-палітычнай праблематыкай. З часам у клубе будуць арганізаваны алімпіяды грамадска-палітычных ведаў. У студзені моладзь хоча арганізаваць кулік па Белавежскай пушчы, якая знаходзіцца побач.

Словам, ГОК у Дубінах бурліць культурным маладым жыццём. Ніхто не наракае тут на нуду.

*Тэкст і фота Я. Цялушэцкага*



*Кіраўнік ГОК-у Галіна Валенда (у сярэдзіне), інструктар Уршуля Устынюк і член грамадскай рады ГОК-у Уладзімір Пракопчук падбіраюць сцэнічныя творы для мастацкай самадзейнасці.*




## У ПЯНЬКАХ БЕЗ ПЕРАРЫВУ

Песні і п'есы на беларускай мове ў Пяньках гучаць ад пачатку існавання Беларускага таварыства. І ніколі не было тут пытання: што рабіць, калі няма рэпертуару, ці што рабіць, калі няма ахвотных? Праўда, у час апошняй нашай пабыўкі ў вёсцы старшыня пяньkoўскага гуртка БГКТ і вельмі заслужаны грамадскі дзеяч таварыства Янка Азябла, скардзіўся, што цяжка даставаць новыя п'есы, а«ўсе, што даступны, мы перайгралі». Сказана гэта аднак было не так, што, моў, калі няма п'ес, то і ставіць не будзем. Пянькі належаць да той групы людзей, якія знойдуць выйсце. Вядомая пара, муж і жонка Янка і Надзя Азяблы патрапяць самі напісаць п'есу на аснове любога здарэння з жыцця вёскі. Аб гэтым аказваецца ўжо гаварылі. Найперш, у гэтым годзе, хочуць аднавіць камедыю «Цешча ў дом, усё ўверх дном», якую пяньkoўскі драмгуртoк ставіў многа, многа год таму назад. Запісаны тэкст камедыі не захаваўся, але захавалася цэласць у памяці Надзі Азябла.

І трэба сказаць тут пару слоў пра Надзю Азябла. З'яўлялася і з'яўляецца яна фактычным кіраўніком драмгуртка. Сілы для яго ёсць у вёсцы: і сярод старэйшых, і сярод малодшых. Усе, калі трэба, горнуцца да працы. Не было выпадку, каб хто адмовіўся. Больш таго, кожны ахвяроўвае здольнасці і сілы ў той працы, да якой здольны.

Казаў мне Янка Азябла: «Мы маем такіх людзей, якіх патрабуем. А бывае і так, што калі каму не хопіць якой ролі, то і пагневаецца».

Сезон культурнай працы ў вёсцы пачынаецца позна, калі палі апусцеюць ужо зусім і сонца стане халодным. Гэты сезон меў распачацца вялікім сходам гуртка БГКТ у іхнім клубе селяніна, што пабудаваны на ўзгорку сярод шырока раскінутых дамоў вёскі. Пра сход гэты абяцалі яны напісаць у «Ніву», а датычыць ён меў пачатку працы і драмгуртка, і хору.

Культурная праца ў Пяньках плыве двума вялікімі рускамі: праца драмгуртка з п'есай і праца над выбарам, падрыхтоўкай і выступленнямі з песняй.

Песня тут належыць да даўніх і сталых форм дзейнасці. Ёсць слаўныя спявачкі ў Пяньках, і пра іх мы ўжо пісалі. Песні спяваюцца часта і ўсё часцей песні сваёй вёскі, перададзеныя старымі бабамі, якіх усё менш у вёсцы.

У Валодзі Азяблы — сына Янкі, студэнта рускай філалогіі ў Беластоцкай ВСН, які прыслухоўваўся да нашай размовы, адазваліся філалагічныя зацікаўленні. Відаць, і ён цікавіцца старой песняй. І назваў адну такую старую бабку, якая ведае многа старынных песень. Юлія Цімаховіч, ёй 80 і пару год.

Працу ў Пяньках характарызуе вясковы аўтэнтызм. Інтэлігенцыі ў вёсцы нямнога. Настаўнікі, невялікай, зрэшты, школы, таксама не ўключаюцца ў дзейнасць вёскі. А ўсё ж праца ідзе. Самі людзі арганізуюцца да працы і як спраўна! Пянькі — гэта рэдкі прыклад, дзе інспіратарам і кіраўніком драмгуртка ці хору з'яўляюцца не людзі з інтэлігенцыі, а гаспадары ці гаспадыні, неспакойныя і клапатлівыя людзі сваёй вёскі. Аўтарытэт іх вырас і ўгрунтаваўся гадамі цярплівай працы не ў імя таго, каб атрымаць узнагароду, але ў імя таго, што інакш яны не могуць. Да такіх людзей у Пяньках у першую чаргу належаць Азяблы — Надзя і Янка. Надзя вельмі ўсебаковы дзеяч. Яе культурная ніва шырокая і багатая. Закончыўшы курсы, яна стала інструктарам КГВ і ездзіць па вёсках, дзе вядзе курсы крою, шыцця, гатавання. Майстар на ўсе рукі! А як такое майстэрства патрэбнае нашым вёскам і гаспадыням, кожны пацвердзіць. Такое майстэрства змяняе старое аблічча вёскі. Родзіцца тут новы тып гаспадыні, якая ўсё ўмее зрабіць.

Як маладыя, так і старэйшыя ў Пяньках — людзі актыўныя. Генек Аксюцік — вучань міхалоўскага ліцэя, часта заходзіць у сям'ю Азяблаў і дапытваецца, калі ўрэшце пачнецца работа ў клубе. Дачка Надзі Астравецкай, старэйшай дасканалай спявачкі, прыгожа рысуе. Яна выконвае заўсёды ролю іхняга інсцэнізатара вечарын.

У Пяньках існаваў доўгія гады хор. А цяпер гаворыцца ўсё часцей і мацней, што хор павінен зноў арганізавацца, можа нават у гэтым годзе.

На пытанне, ці Пянькі прымуць удзел у аглядах БГКТ на драмгуртoк і песню, старшыня Янка Азябла адказаў пазітыўна і ўпэўнена.

***Вера Леўчук***




*Дамы ў Анцутах Гайнаўскага павету.*

*Фота Я. Цялушэцкага*

Пачатак на стар. 1

# ШМАТ ЧАМУ МОЖНА НАВУЧЫЦЦА Ў БЕЛАРУСАЎ...

вагі 30 кг і затым прадаюць іншым гаспадарам.

*Н.:* Значыць, ажыццяўляецца тут прынцып цеснай спецыялізацыі...

*Ст. С.:* ...і ўзаемнай кааперацыі між паасобнымі гаспадаркамі. Гэта характэрна для сённяшняй сельскай гаспадаркі ў Беларусі.

У нас склалася такое ўражанне, што беларускія таварышы ўмеюць выкарыстаць спрыяльныя ўмовы для інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі. Гэтае ўражанне яшчэ болей пацвердзілася, калі мы наведалі калгас імя Гастэлы, які знаходзіцца тут жа за варотамі сталіцы БССР і ў вялікай ступені корміць яе. Гастэлаўцы ў асноўным спецыялізуюцца ў прадукцыі малака і качак. Малочнасць кароў у іх высокая — дасягае 3600 літраў у год, а качак там — аж 80 тысяч.

*Н.:* Савецкі друк інфармаваў, што ваша дэлегацыя пабывала таксама ў аб'яднанні птушкафермаў імя Крупскай у Мінску.

*Ст. С.:* Так, гэта вельмі цікавае прадпрыемства. Уявіце сабе велізарны, поўнасцю механізаваны камбінат, які ў год дае 75 мільёнаў штук яек, а пасля далейшай разбудовы — аж 250 мільёнаў штук. Куры там сядзяць у клетках, якія ўстаўлены ў 3—4 паверхі, корм ім падаюць транспарцёры, яны толькі ядуць і нясуць яйкі, якія забірае такі ж аўтаматычны транспарцёр.

Гэтаму аб'яднанню падпарадкавана некалькі птушкафермаў з Мінскага раёна. Мы дакладна пазнаёміліся з арганізацыяй працы ў ім. Для прыкладу, чысты прыбытак з 700 тысяч рублёў у 1964 годзе ўзрос там да звыш 4 мільёнаў у 1972 годзе, адзін працаўнік абслугоўвае больш чым 12 тысяч курэй, а рабочы калектыў параўнальна нешматлікі, усяго ледзь 630 чалавек. Але гэта ў асноўным высокакваліфікаваныя спецыялісты. Прадпрыемства дбае, каб добра ім жылося і працавалася. Напрыклад, за дзённае харчаванне ў сталовай плацяць яны ўсяго ледзь 20 капеек. Рэшту дакладае аб'яднанне.

*Н.:* Што з вопыту беларускай сельскай гаспадаркі можа знайсці прымяненне ў нас?

*Ст. С.:* Шмат чаму можна нам павучыцца ў беларускіх хлебаробаў. І, мяркую, нашы партыйныя работнікі з паасобных паветаў і ваяводстваў, якія пабывалі на Беларусі, будуць прабаваць прымяняць на практыцы тамашні вопыт. Возьмем для прыкладу падрыхтоўку сенажа. Гэта дасканалы корм для жывёлы, а яго прадукцыя на Беларусі мае ўжо прамысловы характар. Магчыма, што купім ад савецкіх таварышаў такое абсталяванне, каб пачаць прадукцыю сенажу ў нас. Бо мяса, масла і малако — пачынаецца ад вельмі каштоўнага корму.

Варта нашай увагі і вывучэння арганізацыя жывёлагадоўлі, асабліва далёка разгорнутая ў гэтай галіне спецыялізацыя і кааперацыя. Калгасныя фермы дабіліся вялікага зніжэння сабекоштаў. Гэта і ў нас надзённая праблема, дык іх вопыт мы будзем дакладна вывучаць.

*Н.:* Шчыра дзякую, што захацелі Вы падзяліцца з нашымі чытачамі сваімі ўражаннямі.

*Гутарку правёў*
*Віктар Рудчык*

# ГМІНА Ў НАРВЕ



Ад 1 студзеня ў нашай краіне перастаюць існаваць грамады і грамадскія рады нарадовыя, а распачнуць працу гміны, гмінныя рады нарадовыя і начальнік гміны. Новы адміністрацыйны падзел, новыя правы гмін, вялікія правы начальнікаў гмін ствараюць рэальныя магчымасці, каб гміны значна лепш ад ГРН-аў выконвалі свае абавязкі, звязаныя з сельскагаспадарчай прадукцыяй.

Начальнікі гмін — гэта людзі з вялікім вопытам, правераныя ў працы.

У Нарве спаткаліся мы з будучым начальнікам гміны — Віталісам Пякарскім, які да новага года выконвае функцыю ўпаўнаважанага павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы па арганізаванню гміны. Чалавек гэты родам з Ляўкова, з сярэдняй эканамічнай адукацыяй; даўжэйшы час жыве ў Нарве і тут працаваў на адказных пасадах у ПОМ-е, у ГС-е, а ад 1968 года ўзначальваў паслугова-вытворчую спулдзельню ў Нарве.

Ад таварыша Пякарскага даведаліся мы, што Нараўская гміна з'яўляецца адной з найбольшых у Гайнаўскім павеце. У склад яе ўваходзіць больш як

## ЖЫХАРЫ СВАЙМУ ГОРАДУ

Грамадскую працу больш чым на мільён злотых выканалі на працягу гэтага года жыхары Саколкі. Найбольш яны працавалі пры парадкаванні пляжа вакол басейна. Жыхары Зялёнага пасёлка загаспадарвалі пляцы навокал жыллёвых будынкаў. Парадкавалі яны траўнікі, кветнікі, жвіровыя алейкі і ходнікі. Новыя траўнікі і кветнікі былі зроблены на вул. Гродзенскай. Электраманцёры грамадскім чынам мадэрнізавалі вулічнае асвятленне. Шмат працы ўкладзена пры пабудове пляцоўкі пры пракладцы ходнікаў, пабудове новай агароджы з драцяной сеткі і пасадцы жываплоту пры пачатковай школе № 1. (ця)

## ЛЕНІН — ПОЛЬШЧА — СУЧАСНАСЦЬ

У Музеі рэвалюцыйнага руху ў Беластоку адкрыта выстаўка пад загалоўкам «Ленін — Польшча — сучаснасць». Выстаўка прысвечана 50-ай гадавіне ўтварэння СССР і арганізавана пры дапамозе Музея Леніна ў Варшаве.

Тут вялікія фатаграмы, кніжкі, дакументы. Адну залу займаюць цудоўна каляровыя карцінкі, так званыя палехі — фатаграфіі вечкаў, рукамі робленых каробачак. Прадстаўляюць яны найчасцей розныя цікавыя сцэны з рускіх казак.

Выстаўка ў Беластоку будзе адкрыта да канца студзеня 1973 года. Потым паедзе ў некаторыя паветы. (вл)

## ЗА ЎСМЕШКУ ДЗІЦЯЦІ

Польскі камітэт грамадскай дапамогі і рэдакцыя «Газеты Беластоцкай» пачалі збор дараў, якія будуць раздзелены сярод дзяцей бедных, пакінутых без апекі і сірат. Падарункамі можа быць усё — цацкі, адзежа, грошы.

У паветах усе падарункі трэба прысылаць да канца старога года ў павятовыя камітэты ПКПС. (вл)

СВЯТКАВАННЕ 50 ГАДАВІНЫ СССР

# СУПОЛЬНАЕ МЕРАПРЫЕМСТВА

Актыўна супрацоўнічаюць гарцэрскі атрад і гурток ЗМВ у вёсцы Мора Гайнаўскага павету. У канцы лістапада арганізавалі яны ў мясцовым клубе «Рух» супольную вечарыну, прысвечаную 50-годдзю СССР. Дапамагалі ім старшыня грамадскай рады клуба «Рух» у Моры Надзя Філіманюк і кіраўнічка клуба Ніна Паўлючук. Гарцэрскі атрад «Чырвоныя берэты» зрабіў дэкарацыю клуба і выступіў з мастацкай праграмай, у якой былі песні, скетчы, слоўна-музычны мантаж «Слова аб Леніне». Адбылася таксама згадуй-згадуля пад загалоўкам «Што ведаю аб Савецкім Саюзе?» За ўдзел у ёй Оля Ручай, Расціслаў Юрчук, с. Дзмітра і Янка Леанюк атрымалі ўзнагароды. На заканчэнне вечарыны адбыліся танцы.

## УРАЧЫСТАСЦЬ У ЗУХАЎ

Вечарыну, прысвечаную святкаванню 50-ай гадавіны СССР, арганізавалі зухі з атрада «Сонцайка», які дзейнічае пры школе ў вёсцы Мора. Атрад вядзе настаўніца Валянціна Зінкевіч. Зухі арганізавалі ў сябе згадуй-згадулю, прысвечаную Савецкаму Саюзу. Першае месца ў ёй заняў Янка Сурэль з VI кл., другое — Вера Гаворка з VIII кл. і трэцяе — Вера Філіманюк з VIII кл.

Вечарына прайшла ў прыемнай і сардэчнай атмасферы. Сабралася на яе многа жыхароў з Мора і Крывяціч. (ця)

# ВОСЕНЬ У БЕЛАРУСКІМ КЛУБЕ

Праца гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку канцэнтруецца вакол клуба і ў самім клубе. Гэта вельмі разнародная праца. З кожным годам яна пашыраецца.

Сёлета клуб распачаў фарміраванне мастацкай самадзейнасці. Мы пісалі ўжо аб першым урачыстым і ўдачным выступленні беластоцкай літаратурнай эстрады на коласаўскім вечары. Распачала таксама працу маладзёжная інструментальна-вакальная эстрада, якую з вялікім запалам вядзе Генрык Каральчук — музыкант Беластоцкага сімфанічнага аркестра. Ахвотна збіраюцца і вывучаюць песні харысты 40-асабовага хору гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Харысты маюць прыгожыя ўборы, пашытыя ў мінулым годзе, але не маюць пакуль дырыжора. Кіраўніцтва гарадскога аддзела і клуба шукае адпаведнага чалавека. Пакуль хор вядзе грамадска сам кіраўнік клуба Зося Стаськевіч.

На канец цікавая інфармацыя з менш вядомага штодзённага жыцця беларускага клуба ў Беластоку. Багаты вяселлямі быў у іх гэты год. Да канца верасня аж сем пар пазнаёміліся ў клубе і пажаніліся. Многія з іх запрашалі кіраўніцтва клуба на сваё вяселле. (вл)

У ЛАБАРАТОРЫЯХ ВУЧОНЫХ




Цераз пушчу мы ехалі колішняй лясной прасекай, што цяпер стала зусім добрай жвіроўкай, якая злучае схаваную ў пушчанскіх нетрах вёску Буды з мястэчкамі Нараўкай і Белавежай. Лістападаўская пушча была голая і глухая. Ніводзін гук, ні шолах не парушаў мёртвай абыякавасці лясной глушы, чакаўшай звонкіх замаразкаў і снегавога покрыву. І раптам на лузе, што акаймоўвае пушчанскую рэчку Лутоўню, мы ўбачылі статак быдла. Хто яго прыгнаў у такую глухамань пасвіцца?.. Калматыя бура-карычневыя грудастыя постаці не прымушалі доўга здагадвацца — зубры!.. Каржакаватыя барадатыя старыя самцы і самкі скублі траву ўскрай круга пад лесам і бліжэй дарогі, а ў сярэдзіне хадзіў маладняк і цяляты... дванаццаць, трынаццаць, чатырнаццаць штук! І каб не гэтая жвіроўка, бетонны масток цераз рэчку і тое, што мы сядзім у адкрытых дзверцах аўтамашыны — цяжка было б паверыць, ці гэта на самай справе другая палавіна дваццатага стагоддзя. Зубрыны статак выклікаў уяўленне нейкай адлеглай старажытнасці, яе першабытнай сілы і жорсткасці. Але вось крайнія зубры павярнулі галовы ў наш бок і два з іх, чмыхнуўшы, накіраваліся да жвіроўкі... Наша машына ляснула дзверцамі і шмыгнула далей ад цікаўных валадароў пушчы.

На навуковай станцыі даследавання млекакормячых Польскай акадэміі навук у Белавежы размаўляем з др М а л г а ж а т а й К р а с і н с к а й, якая 11 год свае працы прысвяціла праблеме гібрыдызацыі зуброў са свойскім быдлам.

Праблема скрыжавання жывёлы, якая належыць да розных родаў, з'яўляецца цікавай як з тэарэтычнага, так і з практычнага пункту гледжання. Справа ў тым, каб раскрыць у гібрыдаў таямніцу спадчыннасці не толькі ад іх бацькоў, але таксама і вынікі ў гадоўлі ў сувязі з «даплывам» дзікай крыві да свойскай жывёлы.

Крыжаванне зуброў са свойскім быдлам мае ўжо ў Польшчы стогадовую традыцыю. У гадах 1847— 1857 Валіцкі, спалучаючы зуброў са свойскім быдлам, атрымаў 15 гібрыдаў, якія былі моцнымі і цягавітымі рабочымі жывёламі. Такія ж спробы праводзіліся таксама ў СССР у славутым запаведніку прыроды Аскания Новая. Некалькі гібрыдаў зубра з быдлам выгадаваў заапарк у Плоцку і станцыя эксперыментальнай гадоўлі жывёлаў ПАН у Папельне.

У 1958 г. па ініцыятыве праф. др-а А. Дэгнеля пачалося скрыжоўванне зуброў з польскімі расамі свойскага быдла на навуковай станцыі даследавання млекакормячых ПАН у Белавежы. Вопытам кіраваў спачатку праф. др А. Дэгнель, а пасля яго смерці ў 1962 г. кіраўніцтва пераняў праф. др З. Пуцэк. Ад 1961 г. вопыты вяла др М. Красінская. Праца адразу ўскладнілася тым, што мужчынская лінія гібрыдаў (гібрыды-быкі) аказалася бясплоднай, і для кожнага наступнага эксперыменту трэба было браць насенне ад зубра, а гэта справа надта ж нялёгкая! Але ўсё ж др М. Красінская выгадавала 54 гібрыды, якім дала імя «Зубронь». Цэлы статак зусім новай жывёлы!

Вучоная даследавала крапатліва і падрабязна ўсе ўласцівасці зуброняў, наследаванне імі рысаў бацькоў, марфалагічную будову іх цела, хуткасць росту,



*Зубронь першага пакалення «Фацэт» (яго бацька — зубр, маці — свойская карова нізіннай чорна-белай расы) ва ўзросце 6 год са сваёй маткай.*

*Фота — С. Бушко*

40 вёсак. Найдалей ад Нарвы знаходзіцца вёска Козлікі, што непадалёк ад Кленік. Да яе больш як 15 км. Плошча гміны — 23869 га. Зямельных угоддзяў 16489 га. Гаспадароў — 1868, а ўсяго насельніцтва налічваецца ў гміне 7 704 асобы.

— Гміна наша, — гаворыць Віталіс Пякарскі, — мае ўсе магчымасці, каб стаць моцнай эканамічна-адміністрацыйнай адзінкай. Маем тут агранамоўку, ветэрынарную лячэбніцу, паслугова-вытворчую спулдзельню, ПОМ, ГС, пастарунак міліцыі, пункт аховы здароўя, радзільны пункт, прадшколле, васьмікласную школу, пякарню, клуб селяніна, «практычную гаспадыню», часальню воўны і шмат ёсць у нас індывідуальных рамеснікаў.

У раёне Нарвы адбываецца цяпер камасацыя зямлі, і пасля яе заканчэння значна палепшыцца сельскагаспадарчая вытворчасць. У гэтых мясцовасцях якасць зямлі наогул нізкая, у асноўным V і VI катэгорыя. Але дзякуючы шырокаму прымяненню мінеральных угнаенняў, ураджай 4-х зернавых культур дасягае тут 20 цэнтнераў з аднаго гектара.

У раёне Нараўскай гміны ёсць шмат перадавых гаспадароў, якія маюць добрыя вынікі не толькі ў вырошчванні сельскагаспадарчых культур, але і ў развіцці жывёлагадоўлі. Да іх належаць Павел Ваўрэнюк з Макаўкі, Мікалай Чарнякевіч з Гайдукоўшчыны, Францішак Пагажэльскі з Адрынак і шмат іншых.

— Адной з важнейшых спраў будзе поўнае загаспадарванне зямлі з дзяржаўнага фонду, — гаворыць таварыш Пякарскі. — І тут мусім мы звярнуць вялікую ўвагу на сельскагаспадарчыя гурткі і існуючыя тры спулдзельні прадукцыйныя. Трэба абсейваць нам кожны гектар зямлі, бо зямля не павінна ляжаць аблогам, павінна яна радзіць кожны год.

У гэтым месцы Віталіс Пякарскі ўспомніў аб тых гаспадарках, на якіх працуюць старыя людзі і прыкладна праз 10 год яны ўжо будуць не ў стане апрацоўваць зямлю. Асабліва шмат такіх гаспадароў у Трасцянцы. На будучыню для сваіх дзяцей пабудавалі яны і будуюць дамы ў Беластоку, а такім чынам вылюдняецца вёска, і патэнцыяльных гаспадароў там становіцца штораз менш. Ужо цяпер начальнік гміны бачыць гэту справу і таму вялікую ролю адводзіць павелічэнню колькасці сельскагаспадарчых машын і больш рацыянальнаму іх выкарыстоўванню.

У сучасны момант, паводле слоў Віталіса Пякарскага, найбольшая ўвага звяртаецца на кантрактацыю сельскагаспадарчых культур і на перавыкананне плана выкупу і давозу да гаспадарскіх сяліб мінеральных угнаенняў — асноўнай гарантыі высокіх ураджаяў.

*Тэкст і фота М. Хмялеўскі*

# ФАЛЬКЛОР

## ЛЮБОЎНАЯ

Moderato

ОЙ, ТЫ ГРЫ-ЦУ, ГРЫ-ЦУ ТАЙ НА ВЭ-ЧЭ- РНЫ-ЦЫ

БО НА ВЭ-ЧЭ- РНЫ- ЦАХ ДЗЕЎКІ-ЧЭРО - ВНЫ-ЦЫ - ВНЫЦЫ,

*Ой ты, Грыцу, Грыцу, тай на вэчэрныцы,*
*Бо на вэчэрныцах дзеўкі — чэровныцы.*
*Бо на вэчэрныцах дзеўкі — чэровныцы.*
*О, то та дзеўчына, што чорны брова мае,*
*То то — чаровныца тай справэдлівая.*
*То то — чаровныца тай справэдлівая.*
*У понідзелок рано зелечко збірала,*
*А ў аўторок рано зеле полоскала.*
*А ў аўторок рано зеле полоскала.*
*А ў сэрэду рано зелечко варыла,*
*А ў чэтвэр рано Грыца атравіла.*
*А ў чэтвэр рано Грыца атравіла.*
*Ужэ прышла пятніца — пахавалі Грыца.*
*А ў суботу рано маці дочку біла:*
*— Ой, на што ж ты, шэльма, Грыца атравіла!*
*— Ой, на што ж ты, шэльма, Грыца атравіла!*
*О то табе, Грыцу, то табе заплата —*
*Штэры доскі, сажань зэмлі шчэ й цемная хата.*
*Штэры доскі, сажань зэмлі шчэ й цемная хата.*

Ад Юліі Харкевіч, 1919 г. нараджэння, вёска Міхнаўка, Гайнаўскага павету, запісаў 30 жніўня 1972 г. Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

# Францішак Апановіч

Дырэктар пачатковай школы ў Залуках Беластоцкага павету вучыць дзяцей ужо дзесяты год. Працу ў школе распачаў пасля заканчэння вучобы на музычным аддзяленні Настаўніцкай студыі ў Беластоку. Зараз кіруе працай сяміасабовага настаўніцкага калектыву. У школе ў Залуках вучыцца 138 школьнікаў з Залукаў, Падзалукаў, Навасёлкаў, Радкніна і Пясчанікаў. У школе актыўныя гарцэрская і зухаўская арганізацыі. Яны вядомы ва ўсёй акрузе.

Вучні гэтай школы штогод дапамагаюць ПГР у Валілах пры капанні бульбы, вядуць вучнёўскую спулдзельню, наводзяць парадак у школе і на школьным панадворку, арганізуюць розныя мерапрыемствы, дапамагаюць звяркам перажыць зіму, арганізуюць вучнёўскія сходы, вечарыны.

Пад наглядам настаўніка Францішка Апановіча вучні выконваюць самастойна некаторыя дапаможнікі. У школе ў Залуках вучні вывучаюць беларускую мову. Зараз вучні рыхтуюцца да ўдзелу ў конкурсе беларускай песні. Падрыхтоўвае іх Францішак Апановіч.

Дырэктар шмат клапоціцца пра школьны будынак і яго абсталяванне. Пакуль што няма ў школе цэнтральнага ацяплення, дык дырэктар зараз робіць захады, каб правесці яго.

Францішак Апановіч — вядомы грамадскі дзеяч у сваёй акрузе. Выконвае ён абавязкі першага сакратара партыйнай арганізацыі, абавязкі старшыні агніска ЗНП у Гарадку. Вырашае шмат важных праблем сваёй вёскі, а таксама рад настаўніцкіх праблем. Жыве ён у гушчы вясковых спраў. Добра ведае вёску. Можа, таму менавіта ніколі не адмовіцца дапамагчы таму ці іншаму селяніну.

Як толькі ў Залуках заснаваўся гурток БГКТ, Францішак Апановіч стаў яго актыўным членам.

*Тэкст і фота Я. Цялушэцкага*



магчымасці расплоду, склад крыві, спажывецкія вартасці мяса, прамысловую прыгоднасць скуры і г.д.

Зуброням уласціва прамежкавая будова цела паміж зубром і свойскім быдлам. Маюць яны густую і доўгую шэрсць, моцна развітую пярэднюю частку цела (быкі маюць горб). Масць іх цёмна-карычневая, чорная, чырвоная, або чорна-белая. Тэмперамент зуброняў падобны да зуброў, але ў наступных пакаленнях мякчэе, хоць часам і здараюцца агрэсіўныя штукі. Голас зуброняў падобны як у свойскага быдла, толькі ніжэйшы і больш храплівы.

Пашыраная ў гібрыдаў з'ява буйнага развіцця ў першым пакаленні выступае таксама і ў зуброняў. Цяляты родзяцца вялікімі (бычкі каля 60 кг, цялушкі — каля 48 кг), вельмі хутка растуць і набіраюць вагі. У паўгадовым узросце зуброні-самцы перавышаюць вагой бычкоў свойскага быдла на 44 прац., зуброні-самкі цяжэйшыя ад свойскіх цялушак на 23 прац. Пры гэтым у іх большая колькасць мяса, большая маса і паверхня скуры, большы жалудак і кішкі, чым у маладых зуброў і свойскіх цялятаў.

Праведзеныя на 21 зуброні даследаванні паказалі, што пасляўбойная выдайнасць зуброняў складала ў сярэднім 56 прац. і была вышэйшай, чым ва ўбойнага быдла першага класа. Іх мяса мае ў сабе больш бялка (20,6 прац.) і менш тлушчу (2,3 прац.), чым свойскае быдла. Цела іх меней касцістае, а мяса надзвычай смакавітае і з нарыхтоўкай ежы з яго няма ніякіх цяжкасцей.

Калі скура зуброў мае порыстую структуру і не надаецца да скарыстання ў гарбарскай прамысловасці, то скура зуброняў значна лепшая ад зубрынай і мала ў чым уступае скуры са свойскага быдла.

Амаль 14-гадовы навуковы вопыт падказвае, што зуброні — жывёлы з вялікай масай смачнага і атракцыйнага мяса — могуць прынесці гаспадарчыя карысці. Найбольш прыгодным для прадукцыі мяса з'яўляецца, несумненна, першае пакаленне зуброняў. Інтэнсіўнае развіццё і прырост вагі іх у першым годзе жыцця паказвае, што могуць яны дастаўляць маладую і смакавітую ялавічыну. Зуброні ў такім узросце яшчэ не агрэсіўныя, непераборлівыя ў ежы, таму не будуць клапатлівыя ў гадоўлі. Гадаваць жа іх для малака бадай не аплочваецца, бо хоць малако іх надта тлустае (да 6 прац. тлушчу), але ўдоі вельмі малыя, ды і само даенне не толькі клапатлівае, але і небяспечнае. Бясплоднасць быкоў-зуброняў вымагае браць насенне для гадоўлі гэтай жывёлы ад зуброў.

Навуковыя доследы зуброняў у Белавежы закончаны. Вынікі іх — каштоўныя для навукі і абяцаючыя для гаспадаркі — сабраны і апублікаваны. Ходзяць чуткі, што некаторыя дзяржаўныя гадаўляныя гаспадаркі зацікавіліся вынікам белавежскага вопыту і намерваюцца вырошчваць зуброняў на сваіх фермах.

Што ж, пачакайма. Хто ведае, можа зубраняціна і ўвойдзе ў наша штодзённае меню!

*Мікалай Гайдук*

# ЦІ ЦЯЖКА ЎКРАСЦІ ТРАКТАР?

(ПАЕЗДКА ДРУГАЯ)

Папярэднім разам у нашай разведцы дабраліся мы да Міхалова. Сёння паспрабуем прадоўжыць наша падарожжа. На пачатку звяртаюся да прадстаўніка ваяводскай камендатуры грамадзянскай міліцыі.

— Таварыш капітан, у вас намнога багацейшы вопыт у галіне барацьбы з гаспадарчымі злачынцамі. Як вы ацэньваеце стан забеспячэння грамадскага дабра ў вясковых механізатарскіх базах?

— Ацэньваю адмоўна, — гаворыць капітан Пярун. — Падобны малюнак, які мы бачылі ў гэтых Пяньках, можна сустрэць на Беласточчыне даволі часта. Бывае яшчэ горш. У Пяньках, ці вы гэта заўважылі? — пытае мяне капітан, — машыны стаяць на цэментных дарожках, некаторыя з іх ужо закансерваваныя на зіму спецыяльнымі фарбамі. Гэта яшчэ не ўсюды бывае.

— А што вы на гэта? — звяртаюся да прадстаўніка ваяводскага саюза сельскагаспадарчых гурткоў.

— На жаль, запярэчыць капітану не магу, — адказвае інспектар Генрык Занеўскі.

Імчымся па апусцелых палях Гайнаўшчыны. Лістападаўскі сняжок тоненькім слоем прыкрыў галінкі пушчанскіх паднебных соснаў. Усюды прыемная цішыня. Любуйся колькі хочаш!

— Гайнаўскі павет, — адгукаецца інспектар Занеўскі, — апошнім часам неяк занепаў у галіне механізацыі. Ён у нас калісьці лічыўся перадавым, першае месца заваёўваў, а цяпер вось сярэдні паказчык працы на адзін трактар ніжэй рэнтабельнасці.

У павятовым саюзе сельскагаспадарчых гурткоў у Гайнаўцы старшыня Вітальд Каліноўскі запэўнівае нас, што яны ўжо цвёрда ўзяліся за парадак у падначаленых ім сельскагаспадарчых гуртках і базах.

— Супольна з пракуратурай і міліцыяй, — гаворыць старшыня, — мы ў лістападзе правозілі ў сябе акцыю *«парадак»*. Каб трактар быў рэнтабельны, ён мусіць працаваць не менш тысячы гадзін у год, а ў нас сярэдні паказчык на адзін трактар складае толькі 736 гадзін. Вось 14 лістапада некалькі груп нашых людзей раз'ехалася па павеце на кантроль гаспадарнасці і дбайнасці пра грамадскае дабро. У выніку гэтага прыйшлося адклікаць з пасад кіраўнікоў або дыспетчараў у Чыжах, Новым Беразове, Дубічах, Клейніках, Ляўкове, Арэшкаве і ў многіх іншых вёсках.

— Я ездзіў у Нарву, — уключаецца ў нашу гутарку адзін з работнікаў гайнаўскага бюро ПЗКР, Аляксандр Савіцкі. — Што ж, засталі мы там поўны балаган. Прылады і машыны не забяспечаны на зімоўку, абыякавасць да грамадскай маёмасці, неўласцівыя сродкі бяспекі на выпадак пажару...

— У апошні час найбольш бяды маем мы, — уздыхае старшыня Каліноўскі, — з міжгурткоўскай машынна-трактарнай базай у Арэшкаве. На адзін трактар гэтай базы прыпадае ў сярэднім толькі 450 гадзін працы. Адначасова тэхнічны стан трактароў паказвае на тое, што яны без працы не стаялі, што працавалі намнога больш.

Капітан Пярун кідае пытанне: колькі зямлі мае кіраўнік базы, якая ў яго сям'я, колькі грошай заплаціў ён за працу сельскагаспадарчай тэхнікі на сваім полі?

Аказваецца, што гэты кіраўнік, мае 28 гектараў зямлі, а ўласнай рабочай сілы — мала.

— Едзем у Арэшкава!

За вокнамі нашай «Варшавы» распасціралася ўжо лістападаўская цемра, імжыў дождж.

— Зладзейская ноч, — гавару сваім спадарожнікам.

— Якраз для вас, — жартуе капітан.

Фары аўтамабіля асвятляюць вароты арэшкаўскай базы. Прабуем адчыніць іх. Усё закрыта наглуха. Праз некалькі мінут паяўляецца нейкі старэйшы чалавек.

— А вам чэго нада? — адзываецца беларуска-польска-рускай гаворкай.

— Адчыніце! — рашуча гаворыць капітан.

— Не так сразу! — адказвае сторож, якім тут дзядзька Піліп Аверчук. — Пакажыце дакументы, хто вы!

— Што гэта ў вас, дзядзька Аверчук, дзеецца? — пытаю ў яго. — Кіраўніка ў вас знялі...

— Або то его первого! Тут ніводзін доўга месца не загрэў...

— А чаму так?

— Гэтага я ўжо не знаю, — адказвае сторож. — Кіраўнікоў стаўляюць і знімаюць удзень, а я тут ноччу, дык не бачу.

База ў Арэшкаве забудавана даволі добра. Нават тыя машыны, якія ў другіх базах найчасцей стаяць пад голым небам, тут маюць над сабой дах. Дык дзе шукаць прычын адсталасці?

Паўтараем гэтае пытанне і шмат яшчэ іншых для некалькіх жыхароў вёскі, для людзей, голас якіх у грамадскім жыцці Арэшкава лічыцца даволі высока. Іх паясненні складаюцца на адзін вывад, які ўголас паўтарае капітан:

— Базай авалодалі трактарысты. Яны распараджаліся трактарамі, амаль як сваімі ўласнымі. Працуючы задарма ў кіраўніка на полі, мелі яго ў руках і маглі рабіць, што хацелі.

Аказваецца тады, што неабавязкова трэба красці трактар, каб дарэмна мець яго на ўласнае карыстанне.

*Максім Нурэцкі*

# ВЯЛІКІ КОНКУРС



## „ШТО ВЕДАЕШ АБ САВЕЦКІМ САЮЗЕ"?

### КАЗАХСКАЯ САВЕЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭСПУБЛІКА

Казахская ССР (першапачаткова Кіргізская Аўтаномная ССР) паўстала 26 жніўня 1920 г., пераўтворана была ў саюзную рэспубліку і ўвайшла ў Саюз ССР 5 снежня 1936 года. Тэрыторыя рэспублікі — 2 717,3 тысячы кв. км., насельніцтва — 13 мільёнаў 470 тысяч чалавек, сталіца — горад Алма-Ата.

Большую частку тэрыторыі рэспублікі займаюць раўніны. На яе захадзе знаходзяцца Прыкаспійская і Туранская нізіны, у цэнтры — Казахскае ўзвышша і пустыня Бетпак-дала, а ўсход і паўднёвы ўсход Казахскай ССР займаюць горы Алтая, Тарбагатая, Джунгарскага Алатаў, паўночныя і заходнія ланцугі Цянь-Шаня. Казахстан багаты прэснымі і салонымі азёрамі, самае вялікае з іх — Балхаш (плошча — 19 300 кв. км.).У рэспубліцы малая колькасць рэк. Клімат рэзка кантынентальны і засушлівы. Для большай часткі яе ўласціва доўгае гарачае і сухое лета і кароткая з частымі адлігамі маласнежная зіма.

Па запасах і разнароднасці карысных выкапняў і крыніц энергіі, па плошчы ворыўных зямель і пашы Казахстан з'яўляецца адным з самых багатых раёнаў СССР. Казахская ССР займае першае месца ў СССР па разведаных запасах храмітавых рудаў, медзі, волава, цынку, серабра, вальфраму, фасфарытаў, барыту, а па запасах малібдэну, кадмію і азбесту — другое месца. У Казахстане знаходзяцца значныя залежы каменнага вугалю (каля 26,3 мільярда тон, галоўныя басейны: Карагандзінскі, Экібастузскі і Тэніз-Каржункульскі), бурага вугалю (каля 14,3 мільярда тон, галоўныя басейны: Майкубенскі і Тургайскі), нафты (Эмбенскі басейн, паўднёвая частка паўвострава Мангышлак), жалезнай руды (Кустанайскі раён) і шэрагу іншых мінеральных багаццяў.

У 1970 г. у Казахскай ССР было здабыта 18,2 мільёна тон жалезнай руды, 61,5 млн т каменнага вугалю, 13,1 млн т. нафты, выпрацавана 34,6 мільярда кілават-гадзін электраэнергіі, 64 млн м баваўняных тканін і 27,8 млн пар скуранога абутку. Толькі ў бягучым 1972 годзе казахскія сяляне прадалі дзяржаве 16,4 мільёна тон збожжа.

У рэспубліцы ёсць 10 101 агульнаадукацыйная школа ўсіх відаў, 198 сярэдніх спецыяльных школ, 44 вышэйшыя навучальныя ўстановы, Казахская акадэмія навук і больш чым 200 навукова-даследчых устаноў. Выходзіць 349 газет, часопісаў і іншых перыядычных выданняў. (мг)

Астанкіна. У энцыклапедыі напісана, што гэта класічны дварцова-паркавы ансамбль другой паловы XVIII стагоддзя ў Маскве з Троіцкай царквою з XVII стагоддзя.

Але гэты цудоўны помнік рускай культуры быццам гіне пад гнётам цудоўнага помніка сучаснай тэхнікі, тэлевізійнай вежы вышынёй у 530 метраў. Даволі сказаць, што гэта найвышэйшая вежа ў свеце, пабудаваная чалавекам. На найвышэйшай частцы мачты знаходзяцца тэлевізійныя антэны, а крыху ніжэй — рэстаран. Праўда, калі хто-небудзь прыедзе ў Маскву на два дні, яму цяжка папасці ў гэты рэстаран, бо жадаючых тут надта многа, але каля вежы пабываць ён можа. Рэстаран за адну гадзіну робіць паварот на 360°, але найбольш незвычайным з'яўляецца хістанні самой вежы. У часе мацнейшых ветраў рэзананс хістання вежы даходзіць да 5 метраў. Пра меню і стравы, якія рыхтуюць у рэстаране на вежы, не буду расказваць, бо хто ж бы на гэта звяртаў увагу, калі ля яго ног уся Масква.




## Маскоўская тэлевізія

Побач з астанкінскай мачтай прыгожыя, сучасныя алюмініева-шкляныя памяшканні. Гэта тэлевізійны цэнтр. Часам экскурсаводы, захопленыя вежай, забываюць указаць на гэтыя цудоўныя памяшканні.

Новы тэлевізійны цэнтр быў аддадзены ў карыстанне ў 1972 годзе і атрымаў імя 50-годдзя Кастрычніка. Ганарацца гэтым памяшканнем работнікі маскоўскай тэлевізіі. Хопіць сказаць, што працуе тут 21 студыя, 10 асноўных рэдакцый і каля 8 тысяч людзей.

Мы прывыклі гаварыць, што тэлевізія — гэта малодшая сястра радыё. Сапраўды яна малодшая, але не настолькі, як бы нам здавалася, беручы пад увагу хроніку, дзе напісана, што 1951 год гэта пачатак сістэматычнай штодзённай праграмнай працы тэлевізіі. Трэба ж ведаць, што момантам пачатку эксперыментальнай дзейнасці тэлевізійнага цэнтра з'яўляецца 1938 год (у Ленінградзе).

Праўда, вайна, як і ўсюды на свеце, затрымала эксперыменты. Крыху пазней, чым марылі піянеры-энтузіясты, пачаліся тэлевізійныя перадачы, але было гэта ўжо буйнае развіццё тэлевізіі ў Савецкім Саюзе.

Цяпер у Савецкім Саюзе больш 130 тэлевізійных цэнтраў (рэспубліканскія і абласныя), якія ахопліваюць 70 працэнтаў тэрыторыі краіны. У суткі агулам яны робяць перадачы 1500 гадзін. Гэта значыць, столькі ж, колькі і радыё.

Перадачы маскоўскага тэлебачання ідуць па 6 праграмах. Першая праграма — гэта асноўная ўсесаюзная і многанацыянальная праграма, накіраваная для найшырэйшых кругоў гледачоў. Тут многа палітычнай, эканамічнай, навуковай і культурнай інфармацыі. Апрача таго, сюды ўваходзяць праблемныя перадачы грамадска-палітычнага характару, трансляцыі з тэатраў, канцэртных залаў і іншыя.

Першая праграма А — «Васток» гэта варыянт першай праграмы, які прадугледжвае розніцу часу, і прызначан ён для 30 мільёнаў гледачоў Казахстана, Кіргізіі, Таджыкістана, Алтайскага Края, а таксама такіх вобласцяў, як Курганская, Арэнбургская, Новасібірская, Свярдлоўская, Цюменская і Чалябінская.

Другая праграма — гэта праграма, маючая мясцовы характар для Масквы і суседніх вобласцей: Разанскай, Тульскай і Смаленскай, а таксама для Беларусі.

Трэцяя праграма — гэта вучэбная, якая з'яўляецца дапаможнікам для вучняў сярэдніх школ і студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў, а таксама дае магчымасць павысіць свае кваліфікацыі спецыялістам розных галін гаспадаркі.

Чацвертая праграма прыносіць перадачы найлепшыя, якія былі ў першай праграме і іншых, і пакуль што перадаецца толькі адзін раз у тыдзень.

Пятая праграма — «Арбіта» таксама ў асноўным абапіраецца на матэрыялах, падрыхтаваных для іншых праграм. «Арбіта» пастаўляе інфармацыю ўсюды там, куды не дасягаюць хвалі ніводнай з мясцовых станцый, да найдалейшых куточкаў СССР. Радыус дзеяння гэтай праграмы ахоплівае 600 квадратных метраў і магчымае яно толькі дзякуючы таму, што трансляцыя адбываецца пры дапамозе спутнікаў «Молнія» і некалькіх дзесяткаў наземных перадатчыкаў «Арбіта».

Праз 5—6 год тэлевізія ў Савецкім Саюзе будзе асноўным сродкам інфармацыі.

*А. Карпюк*



## КУТОК ГАСПАДЫНІ

## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ХАТНЯЯ КАЎБАСА

Хатняя каўбаса падрыхтоўваецца без папярэдняй засолкі мяса. Яго толькі трымаюць на холадзе двое сутак пасля ўбою свінні. Посуд павінен быць эмаліраваны, алюмініевы або з нержавеючай сталі. Драўляны ці ацынкаваны посуд не гадзіцца. Патрыманае на холадзе мяса рэжуць на кавалачкі вагою па 10—20 грамаў, змешваюць з соллю, дробна нарэзаным часнаком, молатым перцам і набіваюць у дакладна вычышчаныя і памытыя кішкі. Завязаныя з канцоў каўбасы праколваюць у некалькіх месцах, каб выйшла з каўбасы паветра. Такую каўбасу сваёй работы вараць у вадзе, а пасля абсмажваюць на патэльні або запякаюць у духоўцы. Вельмі смакуе свойская каўбаса з тушанай капустай. На кілаграм не надта тлустай свініны трэба даць чвэрць чайнай лыжкі молатага перца (чорнага і пахучага), зубок часнаку і няпоўную сталовую лыжку солі.

Хатняя каўбаса добра перахоўваецца, калі заліць яе гарачым тлушчам. Паджарыўшы на патэльні, яе адразу складваюць у дакладна вымыты і стэрылізаваны гліняны ці фаянсавы посуд і заліваюць вытапленым гарачым тлушчам, каб зверху атрымаўся пласт у 2—3 см. Для стэрылізацыі вымыты посуд ставяць на бляшку з кіпячай вадой і кіпяцяць на працягу 20 мінут або праграваюць у духоўцы ці ў печы. Ручніком у сярэдзіне не трэба выціраць.

Зімою можна перахоўваць сырыя каўбасы на гары альбо ў добра праветрываемай халоднай кладоўцы, развесіўшы каўбасы на палкі. Пасля яшчэ трэба яе пракапціць пры тэмпературы дыма 18—22 градусы. Для яе капчэння выкарыстоўваюць толькі апілкі, крыху вільготныя зверху, або невялікую колькасць дроў пакрываюць тоўстым пластом апілак.

### ПОЛЬСКАЯ КАЎБАСА

Хатнюю польскую каўбасу падрыхтоўваюць наступным чынам. На пяць кілаграмаў свініны бяруць паўкілаграма саланіны, соль, 10 грамаў салетры, перац да смаку. Акрамя таго, дадаюць зубок часнаку, два-тры зёрны змеленага ядлоўца.

Мяса рэжуць на дробныя кавалачкі, а саланіну на тонкія палоскі. Нарэзаную саланіну і мяса вымешваюць, дадаюць па смаку прыправы, а таксама каля двух шклянак навару з касцей або вады і ўсё добра размешваюць. Атрыманую масу прыкрываюць і выстаўляюць у халодны склеп на 18—20 гадзін. Пасля гэтага мясам напаўняюць ачышчаныя тонкія кішкі, звязваюць каўбасу ў вянкі. Абсушваюць яе, павесіўшы на палцы, 1—2 дні, а пасля копцяць.

Вядома, што на нашых вёсках каўбасу робяць вельмі па-рознаму. Амаль кожная гаспадыня робіць нейкія адхіленні, мае свае, толькі ёй вядомыя рэцэпты. Гэтыя рэцэпты нас вельмі цікавяць, таму вельмі просім прысылаць іх да нас.

*Гаспадыня*






# ПЕРЫЯД XIX СТАГОДДЗЯ

### КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ — ЧАСТКА VIII

Усё, што было дагэтуль сказана аб Каліноўскім, было сказана ў яго славу, у яго гонар. Не значыць гэта, што ў публіцыстыцы Каліноўскага няма цалкам думак, разважанняў, поглядаў, канцэпцый, якія не выклікалі б нашага крытыцызму. Адносіцца гэта перш за ўсё да разважанняў Каліноўскага аб паходжанні грамадскіх класаў, аб характары праваслаўнага веравызнання і аб дапамозе заходніх дзяржаў польска-беларускаму паўстанцкаму руху. Некаторыя з даследчыкаў прапануюць вельмі просты выхад. Гавораць яны, што тыя нумары «Мужыцкай праўды», у якіх выступае няправільнае тлумачэнне такіх ці іншых праблем, не былі напісаны Каліноўскім. Аднак ніводзін з іх не ўмее даказаць слушнасці такога меркавання. І таму мусім трактаваць усе нумары газеты як вынік творчасці Каліноўскага. Памылковасць Каліноўскага можа быць, зрэшты, толькі яго тактыкай. Імкнуўся ён да паўсюднай мабілізацыі беларускіх сялян і таму стараўся максімальна ўзбудзіць у іх нянавісць да цара, да Расіі, да праваслаўя. З гэтай мэтай бэсціў, лаяў, зневажаў усё, што напамінала ўсходнюю культуру і ўсходнія традыцыі. Не можа быць, каб не ведаў гісторыі заснавання грамадскіх класаў, паходжання праваслаўя і каталіцызму, каб не разбіраўся ў абыякавасці, з якой адносіліся заходнія дзяржавы да паўстанцкага парыву. Дык чаму наіўна, часта прымітыўна, уразрэз з гістарычнымі фактамі тлумачыў тыя пытанні, якія ў палове XIX ст. былі высветлены ўжо навукай? Разлічваў на сялянскую цемру, ведаў, што селянін не разбіраецца ў гісторыі і што можа прыхільна ўспрыняць усякую легенду. Таму гаварыў такія рэчы, якія межаваліся часта з маной.

Пяройдзем да фактаў, якія сведчаць аб фальшы ў некаторых фрагментах публіцыстыкі Каліноўскага.

Разважаючы справу паходжання грамадскіх класаў, Каліноўскі займаецца толькі тым перыядам, у якім Беларусь знаходзілася ў складзе Вялікага Княства Літоўскага або ў складзе Рэчыпаспалітай шляхецкай. Каліноўскі абыходзіць поўным маўчаннем факт існавання Кіеўскай Русі — супольнай прааймчыны беларусаў, украінцаў і рускіх.

Польска-беларуска-літоўскі дзяржаўны арганізм прадстаўляе Каліноўскага як нешта адвечнае. Апісваючы гэты арганізм, Каліноўскі ўдарае ў высокі, патэтычны тон. Арганізм гэты быццам бы гарантаваў насельніцтву шчаслівае, спакойнае жыццё. Выступае тут сапраўдны культ асобы караля і шляхецкай улады, якая «ашчасліўлівала» селяніна паншчынаю. Зрэшты, паслухайма Каліноўскага: «Помняць яшчэ і нашыя дзеды, паказваюць, што за іх часоў мужыкі рэкрута і не знали. Было войско то праўда, но войско польское усе было зэ шляхты, а калі мужыкі часам захацелі ісці на вайну, так зараз з іх знімалі мужыцтва да паншчызну, давалі зямлю, а ўсю вёску рабілі шляхтаю. Стуль то ў нас і набраліся гэтыя аколіцы шляхэцкія. Так за тое, што чалавек шоў на вайну, бараніў сваю бацькаўшчыну, то ронд польскі даваў зямлю, даваў вольнасць, даваў шляхэцтво» («Мужыцкая праўда» № 5).

Паншчына, гэты пагубны рак на целе сярэдневяковага селяніна, прадстаўлена Каліноўскім як нешта неабходнае, справядлівае і лагічнае для мінулых часоў. Прачытайма яшчэ раз фрагмент «Мужыцкай праўды». «Гэтыя, што не хочуць бараніці сваёй зямлі, нехай абрабляюць поле гэтым, што б'ются за вольносць і шчасце ўсіх. І гэтак было доўга: адны баранілі краю, усё хадзілі па войнах, а другіе то гаралі, то сеялі, то касілі, то жалі. З гэтуль то і ўзялася гэта паншчына. Судзеце ж цяпер самі, ці можно было зрабіць справядлівей, як зрабіў калісьці наш народ польскі да і літоўскі». («Мужыцкая праўда» № 2). Вось бачыце, якую каляровую, лагодную, амаль ідылічную карцінку аб паншчыне і войску нарысаваў Каліноўскі. Трэба дадаць — карцінку фальшывую.

Яшчэ глыбейшая памылковасць выступае ў фрагментах публіцыстыкі Каліноўскага, у якіх ён займаецца рэлігійнымі праблемамі. Прадузятая варожасць да першабытнай рэлігіі беларусаў — праваслаўя падказала аўтару непрадуманыя, часта грубыя псеўдааргументы, якія яшчэ раз разрывалі незажыўшую рэлігійную рану тагачаснай Беларусі. Зыходзячы з палажэння аб праўдзівасці заходняга і фальшывасці ўсходняга рэлігійнага абрада і карыстаючыся нярэдка фальшывымі сцверджаннямі, Каліноўскі праводзіць думку аб неабходнасці павароту беларусоў у унію. «Калі сын Боскі, прыйшоўшы на

